# Ніва

ISSN 0546—1968
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 24 (1518) ГОД XXX БЕЛАСТОК 16 ЧЭРВЕНЯ 1985 г. ЦАНА 8 зл.

## Дні царкоўнай музыкі

Ужо чацверты раз адбыліся ў Гайнаўцы Дні царкоўнай музыкі. Найперш 16, 17 і 18 мая г.г. у Святатроіцкім саборы харавыя ансамблі выступалі перад конкурснай камісіяй і публікай, якая кожны дзень запаўняла вялікую новую царкву. Хораў было 14. Побач вясковых, прыхадскіх калектываў выступалі таксама напалавіну ўжо прафесіянальныя калектывы, такія, як Капэла старой усходняй музыкі з Познані або міжакадэмічны хор, які дзейнічае пад апекай касцёла святой Анны ў Варшаве. Гэты ансамбль пад кіраўніцтвам Януша Дамброўскага аб'ехаў ужо цэлую Еўропу і

(Працяг на стар. 6)




Хор з Познані назваў сябе капэлай старой усходняй музыкі...

### ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ



„Не забудзь мяне" — Ольга Садоўская. Гайнаўка, 16.1.1944 г.

## Як былінка ў полі

Наш адрас такі быў: Гродзенская губерня, Бельскага уезда, Паўлаўскай воласці, сяло Гароднікі. 14 год — немцы куляш вараць у нашай хаце, а мы, як стаялі, паехалі на ўсход. Бацька ў Калузе ў манастыры кавалём быў, пасля ў рэвалюцыі біўся, загінуў у 1918 годзе. Мы пераехалі ў горад Курган. Вуліцы ўсе памятаю — Цэнтральная, Берагавая, Троіцкая, Гомельская... Рускую мову дагэтуль памятаю, чытаю, а па-польску чытаю нат без акуляраў.

У час рэвалюцыі цяжка было, хлеба не хапала. Бацькі няма, нас трое маленькіх. Мы, бывала, ходзім, шнырым. Прыцягнулі мяшок мукі, прыкацілі бочачку з маслам. Мама лавіла рыбу, ракаў варыла, мы тых ракаў высысалі, так і карміліся. У бараках мы жылі, сорак сем'яў. Смерць бачылі. Пацукі нам па галовах бегалі, не было дзе схаваць апошняга кусочка хлеба — то ў печцы яго вешалі. Ой, страшна было...

Пасля рэвалюцыі інакш стала. Далі маме работу на панчошнай фабрыцы, а мы хадзілі ў школу, я ў другі клас. Я ў школе ўсе вершыкі ведала, добрая памяць і цяпер у мяне. „Вот Оля сейчас скажет стишок", — кажа настаўніца, а я — стану, дэкламую: „Сіроцінкай я расла, як былінка ў полі. Мая моладасць прашла...." Кажуць людзі маме: чаго ты, Міля, едзеш у Польшчу? Тут твае дзеткі вучацца, працуеш, харошу кватэру маеш, пайкі дастаеш. Ты сваіх дзетак вязеш панам на службу". Так і было.

Усё аднак цёмнае, што я перажыла раней і пазней, не можа зацьміць адзіную светлую хвіліну з майго дзяцінства. Прыехаў да нас Ленін, да дзяцей, бацькі якіх загінулі за рэвалюцыю. Стол доўгі; на ім пачастункі, дзяцей нас многа, а ён прыйшоў. Я як цяпер памятаю. Як цяпер на яго партрэт гляну, адразу прыпомніцца, як ён ішоў і каля мяне стаў, і пагладзіў па галаве. Запытаўся, адкуль я. Я кажу: з Польшчы. „Так ничего тебе у нас будет хорошо. Так, ребятишки, ваши отцы погибли за нашу родину, нам будет жить хорошо". Адзелі нас у цёплыя футры з белых зайцаў і валёнкі, мама працавала, мы вучыліся добра. Белыя зайцы падыходзілі пад самую хату...

Шэсць месяцаў ехалі мы з Расеі, таварнымі паяздамі. Выехалі ў лістападзе 21 года. Чатыры сям'і нас ехала, галодныя. Вылезем з вагона, бяжым шукаць. Бачым — салдаты. „Салдацікі, дайце нам пакушаць!" О госпадзі, кажа адзін, можа і мае дзеткі дзе ходзяць і просяць есці. Далі нам вядро, хлеба, налівалі супу. Прыносім гэта на станцыю ў Самары — няма нашага вагона, ён паўтара кіламетра далей. Бачым — напроціў нас паравоз ідзе. Хацелі мы зыйсці з рэек, і ў снег уваліліся. Суп выліўся, хлеб параскіданы ляжыць, мы проста топімся ў снезе. Выцягнулі нас і павязлі на паравозе. Мяне адразу ў бальніцу: запаленне касцявога мозга. Лекар сказаў: памрэ — пахаваем, выздаравее — прышлём у Польшчу. Сам прафесар быў з Варшавы, узяў мяне дахаты. Мама мяне на плечы і занесла да яго. Паставілі ў кухні ложачка. Служанка мяне карміла, а доктар масаваў. Мне 11 гадоў было, і я не хадзіла. Дзіця, кажа лекар, ты на старасць не будзеш нагамі валодаць. Праўду гаварыў...

Вярнуліся мы ў 1922 годзе, у Гароднікі. Спачатку я рабіла ў цёткі, пасля год служыла ў іншае гаспадыні. Ой, як біла мяне. Раз я картошку перабірала і заснула, то прыйшла, сінякоў панабівала. „Мама, я туды не пайду, як мяне набіла". „Ідзі, ідзі, бо не заплаціць нічога!" За цэлы год купіла сукенку і туфелькі, і тыя хутка парваліся. Божа, колькі я на чужых нарабілася... Ну, кепска мне ў яе было, год служыла. Пасля пайшла да іншае, у Нарву. Там мне добра было, есці было больш, крама была. Пражыву месяц, маці прыедзе, грошы забярэ: дай, Оля, грошай, не маем чаго есці. Я пайшла да Заблудава, але і там у мяне ўсе грошы забіралі. Хадзіла я ў парванай сукенцы. Тады стала я ў добрых людзей у Беластоку. Пані сабрала ўсе мае грошы і кажа: хадзем, Оля, адзену цябе, зможаш людзям паказацца. Купіла мне паліто, усё. Там я год была. Пасля пані выслала мяне да свайго брата, у Чарновесь. Яго жонка хварэла і памерла, і ён надумаў са мной жаніцца. А я не: мне 18 год, а яму сорак пару. Хто ж гэта бачыў! Тады я зышлася з такім адным Колем. З гэтым Колем здарыўся няшчасны вы-

(Працяг на стар. 3)

## НА МЯЖЫ

### АБ ПРАМІНАННІ (1)

Гаварыць аб праміnанні гэта тое самае, што гаварыць аб бяссільнасці. Праміnанне — з'ява ад чалавека незалежная. Звязана яна з адвечным атрыбутам усякага існавання — часам. Датычыць у аднолькавай ступені ўсякіх праяваў матэрыі: зямлі, раслін, звяроў, людзей, зорак і сонца. Усё ў свеце часовае.

Калі я быў у Англіі, дык схадзіў у планетарый. У аграмаднай круглай зале, разлічанай, можа, на пяцьсот ці семсот чалавек, адбываюцца дзівосныя сеансы. Пасярэдзіне залы знаходзіцца параўнаўча невялікая некалькіметровая прылада. У гэтай прыладзе знаходзіцца некалькі тысяч дзірак. Праз гэтыя дзіркі прасвечваецца святло і кідае, як на экран, на аграмадны купал прамені. Гэты купал з'яўляецца імітацыяй неба, а святло, якое выходзіць з „хітрай" прылады, імітуе з вялікай вернасцю і аўтэнтызмам усе зоркі, якія бачым у пагодную ноч на небе. Момантамі здавалася мне, што сяджу я не ў планетарыі ў Лондане, а на прызбе ў Бандарах і ўглядаюся ў зорнае неба. Такое назіранне за зорным небам вызваляе заўсёды ў мяне супрацьстаўныя пачуцці. З аднаго боку, інспіруе ва мне творчыя настроі, пачуццё ўладарнасці, бязмежнага захаплення хараством свету. З другога боку родзіцца ў маёй душы пачуццё мізэрнасці чалавечага жыцця, пачуццё бездапаможнасці, пачуццё ўласнай карлікавасці ў параўнанні з веліччу свету. Калі гляджу ў такое неба, усведамляю, што не мае яно ні пачатку, ні канца і што ўсе зоркі — гэта сонцы і што не адчуваем іх цяпла толькі таму, што знаходзяцца яны ў велізарнай адлегласці ад нас. Не ведаю чаму, але скептычна ў такія моманты стаўлюся да сэнсу ўсіх заваёваў космасу, усіх касмічных палётаў і даследаванняў.

Калі, аднак, гляджу ў такое неба, дык у сувязі з тым, што яно заўсёды аднолькавае і нязменнае, прыходзіць у галаву думка, што толькі чалавек — з'ява часовая, а неба — вечнае і нязменнае. Тым часам неба таксама, як і Зямля, падлягае адвечным працэсам праміnання. Усё ў сусвеце „старэе", а, гаворачы дакладней, усе сонечныя, а, можа, лепш сказаць сонечныя сістэмы памаленьку выгасаюць. Англічане, ды і не толькі яны, дакладна аблічылі, калі загасне сонечная сістэма, у арбіце якой знаходзіцца Зямля, і калі гэта станецца, Сонца страціць сваю гравітацыйную здольнасць. Дзякуючы гэтаму Зямля сарвецца са сваёй арбіты і паімчыць у касмічную сістэму і, праўдападобна, рассыплецца ў пыл і попел. Зразумела, што ў такой сітуацыі жыццё на зямлі перастане існаваць у якой-небудзь форме. І вось тады ўсе нашы імкненні, кар'еры, нянавісці, каханні, дамінацыі, падпарадкаванні, панаванні страцяць усякі сэнс.

**Вось гэты трагічны аспект праміnання ўсведаміў я як ніколі дагэтуль, седзячы ва ўтульнай зале лонданскага планетарыя.**

**Быць можа, што сказанае мною настроіць некаторых чытачоў песімістычна ці нават трагічна-безнадзейна. Хачу адразу сказаць, што выкліканне такога настрою не з'ўлялася маёй мэтай. Калі б, аднак, і пасля гэтага знайшліся асобы, занепакоеныя перспектывай „канца свету", хачу іх канчаткова супакоіць тым, што распад сонечнай сістэмы, у якой знаходзіцца наша Зямля, прадбачваецца праз некалькі мільярдаў гадоў. Гэта значыць, што ні сведкамі, ні ахвярамі не будзе ні сённяшняе, ні заўтрашняе пакаленне зямных людзей.**

**Алесь Барскі**



## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### МІНСКАЕ МЕТРО

Дзевятае па ліку метро (падземная чыгунка) ў СССР аддадзена ў карыстанне ў мінулым годзе ў Мінску — сталіцы Беларусі. Адбылося гэта напярэдадні ўрачыстасцей, прысвечаных 40-годдзю вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, 3 ліпеня 1984 года.

Да гэтага часу мінчане карысталіся 112 маршрутамі трамваяў, тралейбусаў, аўтобусаў і таксі. Гэта дастаткова на сённяшні дзень, але было мала назаўтра. Насельніцтва ні аднаго горада не расце так хутка, як сталіцы Савецкай Беларусі. Прыгадаем, што ў дэмаграфічнай статыстыкі Мінска вельмі сумныя пачаткі. Да пачатку другой сусветнай вайны тут жыло 400 тысяч чалавек. Пасля яе заканчэння — 50 тысяч. У горадзе ўцалела тры працэнты будынкаў і 15 працэнтаў падземных камунікацый. Мінск адраджаўся пры дапамозе брацкіх рэспублік. Цяпер у сталіцы пражывае 1 мільён 458 тысяч чалавек. Горад стаў цэнтрам машынабудавання, электронікі, лёгкай прамысловасці. Ён хутка будуецца, пераліваецца за старую граніцу горада, пераўтвараецца ў сацыяльным плане.

Па генеральнай схеме развіцця беларускай сталіцы да 2000-га года Мінск стане комплексам вытворчых зон, жыллёвых масіваў, сеткі грамадскіх і культурных устаноў, бытавых прадпрыемстваў, якія забяспечаць умовы працы, быту і адпачынку людзей.

Першая лінія беларускага метро прайшла ўздоўж галоўнай магістралі сталіцы — Ленінскага праспекта, амаль зусім вызваліўшы яго ад надземнага пасажырскага транспарту, на долю якога прыпадае 60 працэнтаў агульнай масы забруджанага паветра.

За адзінаццаць мінут блакітныя экспрэсы перасякаюць горад з усходу на захад. Каб гэта здзейсніць, спатрэбіліся гады напружанай працы. Злітыя ў адно намаганні маскоўскіх праекціроўшчыкаў, украінскіх машынабудаўнікоў, уральскіх гарнякоў, латвійскіх электратэхнікаў, рабочых і інжынераў шматлікіх прадпрыемстваў рэспублікі зрабілі магчымым гэты святочны падарунак мінчанам і ўсім жыхарам Беларусі.

Восем станцый з'яўляюцца не толькі інжынернымі збудаваннямі падземнай чыгункі, але гэта і архітэктурныя творы, ажыццяўляючыя канкрэтны ідэйна-мастацкі замысел. Тэма афармлення станцыі „Маскоўская" — „Масква — сталіца Саюза ССР". На сценах падземнай залы мазаічнае ўяўленне дарагіх кожнаму савецкаму чалавеку сімвалаў: Крамля, Маўзалея, Спаскай вежы.

Станцыя „Парк Чалюскінцаў" абліцавана цёмным гранітам. Дэкаратыўныя люстры з лёгка падсвечанага шкла і ліхтары нагадваюць паўночнае ззянне. Шматлікія калоны па абодва бакі перона станцыі „Акадэмія навук" ствараюць ілюзію стэлажоў з шматтомнымі выданнямі. А „Плошча Якуба Коласа" сустракае сонечнымі фарбамі. Керамічныя кафлі расказваюць аб народных святах, абрадах, працы і быце беларускага народа. Урачыста і святочна паўстае перад намі беламармуровая „Плошча Перамогі", як гімн светлай памяці гераічным воінам Савецкай Арміі, партызанам і падпольшчыкам. Слаўныя старонкі гісторыі краіны ўваскрашае габелен у афармленні станцыі „Кастрычніцкая". Унікальная ў архітэктурна-мастацкім плане станцыя „Плошча імя У. І. Леніна". Чаргаванне на сценах уздоўж

(Працяг на стар. 6)



## НА ЗАХАДЗЕ БЕЗ ПЕРАМЕН?

### ДЗЕ ЖЫЦЦЁ, А ДЗЕ ТЭАТР?

Тэатральнае шчасце, як і шчасце ў жыцці, — капрызлівае і пераменлівае. Іншы раз не талент, не мастацкае майстэрства, а яго вялікасць выпадак вырашае поспех таго ці іншага прэтэндэнта ў сузор'е свяціл.

Гэтак жа з невядомай актрысы зрабілася і знакамітая амерыканка Элізабет Тэйлар. Ды, відаць, яна пераступіла зеніт сваёй славы. І яе зорка пакацілася ўніз. Зараз Элізабет — жанчына далёка не першай маладосці, хаця і адчайна змагаецца з няўмольным узростам, сем разоў уступіўшы ў шлюб. Ды справа не толькі ў самых гадах. З твару яна выглядае яшчэ даволі прывабна, і ўсё было б няблага, калі б не праклятая паўната, якая абцяжарвае не толькі яе калісьці вельмі гібкую постаць, а і тэатральную кар'еру. Газеты з жудасцю паведамляюць, што Элізабет Тэйлар важыць ужо... 82 кілаграмы, а што ж яе чакае далей?.. Як і раней яна любіць выступаць у вандроўным тэатры, маючы звыклую схільнасць да перамен месц, да новых знаёмстваў. Але яе вельмі засмуцілі адносіны публікі ў Лос-Анджэлесе, дзе ў п'есе „Асабістае жыццё" яе партнёрам быў Рычард Буртон, яе двухкратны муж. Можа гэтая акалічнасць і паслужыла прычынай для таго, што гледачы цікавіліся больш не ігрой, а актрысай і яе сапраўды асабістым жыццём. Паводле паведамлення мясцовага друку, тэатральная зала з заміраннем сэрца сачыла за тым, як багатае ўбранне на артыстцы амаль трашчала па швах.

І ўжо зусім пакрыўдзілі ні ў чым не вінаватую растлусцелую Элізабет Тэйлар у адным рэстаране, які яна наведала з сімпатычным адвакатам Віктарам Луна, за якога збіраецца ў восьмы раз выйсці замуж. Нейкі мажны пажылы мужчына за суседнім столікам, відаць, хапіўшы лішку, раптам утаропіўся ў жанчыну і, не пазнаўшы ў яе асобе свецкую знакамітасць, урэзаў: „Глядзіце, гэтая прыгажуня тоўстая, як свіння". Віктор Луна, абражаны ў лепшых пачуццях за сяброўку, ірвануў з месца, каб высветліць адносіны з расперазаўшымся п'янтосам, але Элізабет, падавіўшы эмоцыі, утрымала свайго рыцара сэрца: толькі публічнага скандалу для яе яшчэ і не хапала...

Кажуць, што гэты непрыемны выпадак прымусіў жанчыну прыняць рашэнне легчы ў спецыяльную клініку для хуткага пахудзення.

**А. Ж.**

# БАЛЯСЛАВУ МАНКЕВІЧУ 80 ГОД

Імя Баляслава Манкевіча цесна звязана з развіццём беларускага школьніцтва на Беласточчыне ў пасляваенны перыяд. У 1952 г. ачоліў ён новастворанаую рэдакцыю падручнікаў для школ з няпольскай мовай навучання ў Дзяржаўным школьным выдавецтве ў Варшаве. Тут у гадах 1952-1958 пад яго кіраўніцтвам было апрацавана і выдана 45 беларускіх падручнікаў па розных прадметах, сярод якіх 12 перакладаў з польскай мовы наш юбіляр. У 1956 г. выдавецтва выпусціла арыгінальную апрацоўку Б. Манкевіча ў сааўтарстве з З. Карпінскай-Тэпер — „Беларускае слова“ для VII класа.

Для школьнага і шырокага ўжытку выдавецтва „Książka i Wiedza“ выпусціла ў 1952 г. „Праект канстытуцыі ПНР“ і „Канстытуцыю ПНР“, абедзве ў перакладзе Манкевіча. Удзельнічаў ён у рабоце калектыву стваранага для падрыхтоўкі „Падручнага польска-беларускага слоўніка“, які апрацаваў пад кіраўніцтвам вядомых мовазнаўцаў, прафесараў А. Абрэмбскай-Яблонскай і М. Бірылы. Слоўнік выйшаў у 1962 г. і сёння цяжка яго знайсці нават у антыкварыятах.

У сямідзесятыя гады Б. Манкевіч заняўся папулярызацыяй беларускай мастацкай літаратуры ў Польшчы. Да гэтай пары польскі чытач атрымаў у ягоным перакладзе тры аповесці Івана Пташнікава — „Лонва“ (1975 г.), „Тартак“ (1977 г.) і „Найдорф“, якая ў перакладзе атрымала назву „Płonące Wzgórze“ (1977 г.).

У апошнія гады Манкевіч падрыхтаваў падборку апавяданняў Анатоля Кудраўца, якую выпусціць Лодзінскае выдавецтва на польскай мове пад загалоўкам „Zaduszki“.

Творчы кантакт Б. Манкевіча з беларускімі пісьменнікамі працягваецца. У яго адрас паступаюць з Беларусі чарговыя мастацкія творы — Алеся Жука, Івана Пташнікава, Барыса Саченкі. Узнікаюць і абмяркоўваюцца новыя перакладчыцкія праекты. З нагоды яго 80-годдзя (15 чэрвеня 1985 г.) жадаем яму добрага здароўя і поспехаў у ажыццяўленні гэтых задум.

**Юры Туронак**

# Асобна ці разам?

Я хачу ўспомніць мінулыя гады, калі ў краіне была адна маладзёжная арганізацыя — Саюз польскай моладзі (ЗМП). Уся моладзь: сялянская, рабочая, інтэлігенцкая збіралася тады разам.

Мне ў памяці стаіць і цяпер II ваяводскі з'езд у Беластоку, які адбыўся на вуліцы Міцкевіча 11. Абмяркоўваліся там розныя супольныя для ўсіх маладых справы. Моладзь супольна ставіла пастулаты і прымала рашэнні.

Маладыя з гарадоў прыязджалі дапамагаць на вёскі старэйшым, адзінокім сялянам у цяжкай працы на полі.

Прыязджалі з тэатральнымі выступленнямі і песнямі.

Моладзь з вёсак ездзіла ў горад пабачыць, як працуюць фабрыкі.

Цяпер моладзь падзялілася на тры групы: вясковая, рабочая, студэнцкая, а яшчэ ёсць і шмат іншых груп. У іх супольных спраў няма, або яны нічога супольна не абмяркоўваюць.

А ёсць справы, якія можна вырашыць толькі ў адзінстве і згодзе.

**М. Лук'янюк**

# АДКАЖЫЦЕ, НАЧАЛЬНІК!

У мінулым годзе на Чаромхаўскай чыгуначнай станцыі быў разабраны будынак пачакальні і буфета. Буфет памясцілі ў суседнім памяшканні станцыі. І цяпер у гэтым буфеце-кіёску стала вельмі мала месца. Калі прывозяць тавары, працаўнікі станцыі вымушаны чакаць малака ці хлеба на калідоры, бо жыхары бліжэйшых вуліц займаюць чаргу першыя. І, такім чынам, у рабочым буфеце рабочыя не надта могуць купіць што з'есці. А ўсе ўлады маўчаць на гэтую тэму, вады ў рот набраўшы.

Другая справа. У той спажывецкі кіёск на станцыі пачалі пастаўляць з рэстарана гармажэрыйныя вырабы: каўбаскі, фаршыраваны бочак і іншыя. Я прасіў начальніка гміны, а пазней прэзаса Кляшчэлеўскага ГС-у, каб у наш кіёск пастаўлялі час ад часу і мясныя вырабы проста з каўбаснай. Начальнік гміны дык адразу заявіў, што гэта немагчыма, бо побач ёсць магазін „Паўшэхны“. і прэзас заявіў, што ўлады санэпіду яму не дазваляюць. У гэта цяжка паверыць. Калі можна ў кіёску прадаваць каўбасу з рэстарана (з нацэнкай), дык чаму нельга прадаваць каўбасы з каўбаснай?

Адкажыце, начальнік!

**Ул. Сідарук**



Хата з XIX стагоддзя ў Бяняўцах на Дуброўшчыне. Фота Юркі Трачука.

# ЯК БЫЛІНКА Ў ПОЛІ

(Працяг са стар. 1)

падак, мы вянчаліся ўжо ў бальніцы. Два дні жыў пасля таго. Я з Чарноўсі вярнулася дахаты, а пасля пайшла ў Гайнаўку, зышлася з такім Янкам Яцкоўскім. Ён партызанам вазіў есці. Суседзі сказалі, што да нас партызаны прыходзілі. Немцы майго Янку арыштавалі, вывезлі яго. Пабіты быў, што кроў праз сарочку выступіла. Крычаў: я іх не ведаю, гэтых людзей, я іх першы раз бачу, біце мяне, я іх не ведаю... І ён нічога больш не сказаў. Паехаў на Бельск, на Бранск, так і не вярнуўся.

Быў такі немец, інжынер, што бункеры будаваў. У мяне пачкі рабіў, сваёй сям'і высылаў. Паліцэйскі, наш гайнаўскі фашыст, кажа мне: са швабамі таўчэшся. А той немец кажа яму: гэта гутэ фраў, мая сям'я не мае чаго есці. Як з гэтай жанчынай станецца што дрэннае, выб'ю тваю сям'ю. Пасля яго маці мне картку прыслала, што калі б мяне арыштавалі, каб я гэтую картачку паказала. Яе муж быў нейкім капітанам. Мяне ўзялі ў паліцыю. Я кажу, што гэты Яцкоўскі — то чужы чалавек, не мой муж (дзякуй Богу, што я яшчэ не запісалася на яго прозвішча). Я яму варыла, мыла, ён і плаціў. І картачку даю ад тае немкі. Пусцілі.

У 1946 годзе пачаў да мяне хадзіць мой будучы муж. Яго жонку забіла бомба. І ад 46 года я з ім жыла. Яму было 26 год, мне 34. Хадзілі да мяне іншыя, але было на жыццё з ім. Два месяцы прайшло якраз, як Янка памёр. У апошні час нам рэнту пабольшылі. Грошы адкладаю Янку на памятнік і сабе на пахароны. Было за што пахаваць мужа — хапіла і на труну, і на ксяндза, і для таго, што капаў. І я там лягу... Добры чалавек мой Янка Фалітарчык быў, працавіты, сумленны. У тартаку рабіў, вось яго дыпломы... Ночы не сплю, хаджу, клічу, туды-сюды заглядаю. Няма яго, не стаіць, не адазвецца. Няма яго. Сон мне сніцца: траплю палавікі, прыбіраю ў хаце. Стаіць пасярэдзіне хаты пустая труна. Самой прыбрацца трэба. Нацягаю сваю чорную суконку — цесна. Спягаю блузку... Можа я памру скора, мне ўжо 75 гадоў. Не магу падняць ні рукі, ні нагі. Ужо ўсё прапала. Ой, так.

„Как незаметно век проходит, как весна — век молодой. Вот и старость надыходит, как луна я стал седой. Потемнели мои очи...“ Так, я адна, хворая. Прыходзіць да мяне кабета з апекі (у мяне — I група), вады, дроў прынясе. А я— што, рук не падыму, галавы не памыю, хлеба не ўрэжу. Работа паламала. Працавала я ў лесе — вось гэты лес садзіла. Пасля была ў хаце — свінкі трымала, на Гурным картошку садзіла, усёй час мела работу. Мой муж такі быў, што сам нават есці сабе не ўзяў... Папаслужыла, папарабіла я. Колькі я за Яцкоўскім дрэваў у лесе звалiла! Колькі мы з ім зараблялі, каня, воза купілі. Сякерай, пілою. Тую сякеру купілі мы ў 1939 годзе, дровы я яшчэ ёю рубаю, а пілку аддала аднаму чалавеку. Улезу на баль, і рэжу трачку. Пастаюць кругом мужчыны: баба пілуе. Дубы звальвала. Яшчэ й жонкам лясні́чых памагала. Ад сваіх нічога не дастала. Падзяліліся зямлёю, сястра тры дамы мае, а мне нават хустачкі не далі. Ніхто не прыехаў, калі я замуж выходзіла. Паліто пакінула ў хаце, то брат з яго зрабіў сабе куртку. Хочаш зямлі, кажа, то прыедзь, набяры. Я за сваю частку падатак плаціла, а яе на вочы не бачыла. Янка не даў судзіцца, кажа, будзеш цягацца па судах. І так мне ніхто не памог. Столькі свайго і мела, што з Янкам мазалямі нарабіла.

Колькі разоў я ў шпіталях, у санаторыях была! Апошні раз у шпіталі 16 ногцяў мне здзіралі — набралася з якогась грыба ляснога... Ногі хворыя, праўду прафесар у Самары гаварыў...

Добра было мне ў шпіталях, усе былі добрыя, любілі мяне. Празвалі мяне пераадзетай Ганкай Бяліцкай. Вершы я ім гаварыла, песенькі спявала, карты клала. У мяне калісь быў вельмі прыгожы голас. Прайшла вясна...

Любяць мяне дзеці. Усе мае ўнучачкі — дзеткі з блокаў напроціў мае хаты. Клічуць: бабка, бабка, добры дзень, калі да нас прыйдзеш на лавачку, раскажы нам вершык, казку пра Сібір.

Едзем раз у цягніку са старым чалавекам, песенькі спяваем. Пытаюся, колькі яму гадоў — 82. „От каб мне такую жонку як вы, мы спявалі б да самае смерці. Мая жонка не любіць, калі я спяваю!“ „А мой муж не любіць!“ А дзедка смяецца: „От, мы двое пэсавалі б — да 100 год спявалі б!“

**Міра Лукша**

## БУДЗЬ КІМ ХОЧАШ, ТОЛЬКІ НЕ БЕЛАРУСАМ

Аднойчы, едучы з Гайнаўкі цягніком, я сядзела разам з жанчынамі, якія ехалі ад бацькоў. Адна з жанчын запытала мяне, ці я разумею тое, што гаворыць тут бацюшка. Калі пачула, што разумею, вельмі здзівілася.

— Як гэта так? Ён жа гаворыць па-руску. Напрыклад, у нас, у Беластоку, бацюшка казанне гаворыць па-польску.

— Ну, добра, цётка, хай ён гаворыць па-польску, але абавязак парафіян прымусіць яго, каб гаварыў па-беларуску, — кажу ёй.

— О не, ніколі гэтага не будзе! — хуценька запярэчыла яна. — Гэта ж дзеля дабра дзяцей. Яны па-беларуску гаварыць не ўмеюць. Мы іх вучылі і ў хаце гаворым толькі па-польску.

— Вы толькі паслухайце мяне, — працягвала чорнавалосая жанчына, — калі мая Кася ўмела ўжо гаварыць і сёе-тое разумела, мы прыехалі на Каляды да бацькоў. Гаварылі па-беларуску. Кася толькі прыслухоўвалася нашай гутарцы. Калі мы ад'язджалі ў Беласток, яна нас прасіла, каб больш па-яўрэйску не гаварылі. Вось бачыце, як гэта ёсць. Яны ўжо ад маленькага не хочуць гаварыць па-беларуску, а БГКТ хоча ў беластоцкіх школах увясці беларускую мову. Вось дзівакі!

— Што праўда, то праўда, — адазвалася прыгожая бландзінка. — Я таксама за тое, што беларуская мова ўвогуле непатрэбная. Летам я аддала сына пад апеку маме. Думаю, хай паласуецца трускалкамі ды свойскім хлебам і кілбасамі. Толькі сораму набралася праз гэта. Пабыў мой Эміль месяц у бабулі, і я зноў забрала яго ў Беласток. Завяла ў прадшколле, а там настаўніца папрасіла яго, каб расказаў сябрам, як людзі жывуць на вёсцы. Ён перш за ўсё сказаў, што вельмі дзіўна гавораць: „пойдут", „прыйдут", „поедут", „прыедут" і іншыя словы, якіх ён не змог запамятаць.

Прыходжу пасля работы, каб забраць Эміля дадому, а выхавацельніца мяне пытае, ці я — беларуска, і паўтарае тое, што гаварыў Эміль. Мне твар агнём апякло, я ўся гарэла ад сораму. Выхавацельніцы я сказала, што я — полька і сын мой — паляк, а мае бацькі старыя, таму гавораць па-беларуску.

— Добра, што не прызналіся, — адазвалася старэйшая ўжо жанчына. — А то калі б дазналіся, што беларус, то жыць не далі б.

Я моўчкі слухала гэту балбатню і мне зрабілася сумна. Дасюль не магу зразумець, як можна цурацца таго, што роднае?! Калі беларусы не шануюць сябе і сваёй мовы, то другія нацыі напэўна нас шанаваць не будуць.

Калі моладзь не хоча вывучаць родную мову, — гэта віна бацькоў, якія не ўмеюць даражыць тым, што роднае.

Паводле статыстыкі, беларусаў у Польшчы 250 тысяч, а так на самай справе, колькі нас? Колькі такіх беларусаў, для якіх беларуская мова — гэта святасць? Можа, знойдзецца дзве тысячы, а можа і не...

**Аўрора**



## ВЕТЭРАН

Аляксей Філіманюк пайшоў на вайну яшчэ ў 1939 годзе і да 1947 года блукаўся па далёкіх краінах і франтах. Найперш апынуўся ў Савецкім Саюзе. Калі ў 1941 годзе генерал Уладзіслаў Сікорскі, тадышні прэм'ер-міністр Польскага ўрада ў эміграцыі, падпісаў дагавор аб супрацоўніцтве з Савецкім Саюзам, Аляксей Філіманюк зноў стаў салдатам Польскай Арміі, якая пад камандаваннем генерала Андэрса арганізавалася на поўдні СССР. З гэтай арміяй трапіў ён у Іран, Егіпет, а затым удзельнічаў у славутым баі пад Монтэ-Касіна і ў іншых баях за вызваленне Італіі ад гітлераўскай акупацыі.

Дамоў А. Філіманюк вярнуўся ў 1947 годзе з Англіі. Цяпер яму 78 гадоў. Усё жыццё (нават і на вайне) быў ён шафёрам. Ваенныя нягоды падарвалі яму здароўе. Асабліва прытупіўся слых.

На памяць аб геройскай маладосці асталіся Аляксею Філіманюку высокія польскія, англійскія і італьянскія ордэны і медалі, сярод якіх таксама і крыж „За Монтэ-Касіна", а нядаўна ўручылі яму медаль „Удзельніку абароннай вайны 1939 года".

Заслужаны пенсіянер жыве цяпер у Чыжах. Ён ахвотна дзеліцца сваімі ўспамінамі аб незвычайных ваенных прыгодах. І я пастараюся яшчэ болей падрабязна расказаць пра гэтага заслужанага чалавека.

**Віктар Рудчык**

Фота аўтара.

З народнага

### ХІТРАЯ ЖОНКА

Колька купіў добрую воўну і зрабіў на зіму валёнкі. Паехаў у лес — намачыў валёнкі.

Назаўтра ад'язджаў у горад і падзеў боты, а жонцы Тэклі сказаў:

— Высушыш мае валёнкі, бо мокрыя.

— Добра, — сказала Тэкля і паставіла валёнкі каля печкі, а сама так зарабілася, што пра валёнкі забылася і яны згарэлі. Што рабіць? Такія валёнкі былі! Хоць вазьмі і галавой аб сценку біся!

Прыехаў Коля, паабедаў ды лёг на варсальку адпачыць.

Тэкля стала мыць падлогу на хаце, дзе ляжаў Коля, і высока за калені падняла спадніцу, каб не замачыць.

Колька ляжыць на варсальцы, глядзіць, ды — хап, Тэклю за руку і — да сябе. А яна, хвіліну падумаўшы, ухітрылася ды кажа:

— Кінь, Коля, гэтую гульню, бо валёнкі паставіла сушыць каля печкі — могуць згарэць!

— Нічога, чорт з валёнкамі, — адказаў Коля.

Закончыўшы гульню, скочыла Тэкля да печы і прыносіць спаленыя валёнкі, ды кажа:

— Прасіла ж па-добраму, пакінь, бо валёнкі згараць, не паслухаўся, вось маеш. А такія добрыя валёнкі былі!

— Ну, што ж, — кажа Коля, — у жыцці ўсяляк бывае.

### ЛЕПШ НЕ ПЫТАЦЦА

Пажаніліся Грыша з Валяю і аднойчы Грыша пытае ў Валі:

— Скажы, Валечка, колькі ты мела нарачоных, пакуль выйшла за мяне?

Валя стаіць, не аказваецца.

Грыша чакае, чакае, ды ізноў пытае.

— Што так доўга стаіш і маўчыш?

— А я ўсё лічу, колькі іх было.

**(ух)**

СЛАВУТЫЯ БЕЛАРУСЫ

## КАЛІ І СМЕРЦЬ НЕ СПЫНЯЕ

Ёсць імёны падарожнікаў, якія не старэюць. Сярод іх імя Чэрскага.

Іван Чэрскі памёр 7 ліпеня 1892 года ў час экспедыцыі на руках у жонкі, на вачах у адзінага сына. Але да канца ён заставаўся на носе баркаса (рачнога судна) і назіраў за ракой Калымой і днём і светлай палярнай ноччу. А жонцы ён наказваў працягваць шлях уніз да Ледавітага акіяна нават пасля сваёй смерці, каб завяршыць экспедыцыю і назіранні за няведанымі мясцінамі.

Ужо ведаючы, што ён асуджаны, Чэрскі запісаў у дзённіку: „Я зрабіў распараджэнне, каб экспедыцыя не спынялася (...), нават у тым выпадку, калі надыдуць мае апошнія хвіліны, і каб мяне ўсё цягнулі наперад і нават у той момант, калі я буду адыходзіць".

Нарадзіўся Чэрскі далёка ад Сібіры, на поўначы Беларусі. Яго родны дом быў у маёнтку Сволна (цяперашняга Верхнядзвінскага раёна Віцебскай вобласці). Тут ён убачыў свет 15 мая 1845 года ў сям'і беднага беларускага двараніна.

Цяжка знайсці другога айчыннага падарожніка, чый лёс быў бы больш цяжкім, чым у Чэрскага. Рана страціць бацькоў, прыняць удзел у „бунце супраць цара" ў радах паўстанцаў 1863 года, служыць радавым лінейнага батальёна ў Омску — і ўсё гэта ў няпоўныя дваццаць чатыры гады.

Імкненне да ведаў дазволіла вынесці Чэрскаму цяжар ваеннага жыцця. Самаадукацыя замяніла юнаку вышэйшую школу. „Пры свечцы, якая курэла, у брудным памяшканні закінутай лазні, гадзінамі праседжваў малады даследчык над анатамічнымі прэпаратамі, здабываючы матэрыял з вялікай цяжкасцю", — успамінае пазней аб ім адзін з яго сяброў Б. Дыбоўскі, ссыльны даследчык жывёльнага свету Сібіры. Юнака адмовіліся прыняць ва універсітэт як палітычнага злачынцу, яго артыкулы адхілялі навуковыя часопісы.

Вучоныя Сібіры і цэнтра даведаліся пра маладога даследчыка, пра яго дапытлівасць і здольнасці. Восенню 1871 года малады навуковы цэнтр Сібіры — Усходне-Сібірскі аддзел Рускага геаграфічнага таварыства запрасіў да сябе з Омска на пасады пісара, бібліятэкара і кансерватара музея 25-гадовага палітычнага ссыльнага Чэрскага.

Малады вучоны рушыў праз усю Сібір у Іркуцк, дзе размяшчаўся аддзел. Б. Дыбоўскі ўспамінаў аб гэтым: „Не маючы сродкаў на дарогу, І. Чэрскі прадаў усё, што меў, і пакінуў самае неабходнае з адзення: кажух, футравую шапку і пімы. У такім сібірскім уборы, у марозную сібірскую зіму, пакутуючы ад холаду і часта галадаючы па дарозе, прыбыў ён у сталіцу Усходняй Сібіры".

(Працяг са стар. 5)

## КАЛІ І СМЕРЦЬ НЕ СПЫНЯЕ

це. (...) Я быў уражаны спакоем гэтага чалавека, упэўненага ў блізкай смерці, і гатоўнасцю сустрэць яе, яго здольнасцю цікавіцца на краі магілы жыццём людзей, з якімі так ці інакш сутыкаўся, жывучы ў Верхне-Калымску, цікавіцца кожнай драбязой, якая так ці інакш тычыцца прадмета яго даследаванняў, яго здольнасцю пераходзіць ад размовы аб блізкай і немінучай смерці да размовы пра тое, што няшчасныя іншародцы (мы гаварылі пра якутаў і ламутаў) пакутуюць ад кулакоў значна больш, чым ад суровых умоў краіны. Ён не толькі гаварыў пра гэта, але і перажываў кожнае слова, што прымусіла мяне спыніць гэтую размову".

Смерць прыйшла роўна праз дваццаць два дні пасля гэтай сустрэчы.

Ва ўсходняй Сібіры вучонаму стаяць вечныя помнікі — горная сістэма Чэрскага ў Паўночна-Усходняй Якуціі, краж Чэрскага ў Забайкаллі, гара Чэрскага пад Іркуцкам, перавал Чэрскага на рацэ Харок, даліна Чэрскага ў Саянах, горад Чэрскі ў нізоўях Калымы.

Сучасныя даследчыкі псіхалогіі навуковай працы прыводзяць дзейнасць Чэрскага як яркі прыклад мінімуму прэтэнзій першаадкрывальніка, нягледзячы на яго наватарства. І Чэрскі арыентаваўся на прадмет даследавання, а не на самасцвярджэнне, дасягненне лепшых ацэнак сваіх вынікаў ці славу.

**Валянцін Грыцкевіч**

(Працяг са стар. 2)

## МІНСКАЕ МЕТРО

шын вялікіх адрэзкаў, выкладзеных белым і чырвоным мармурам, падлога выкладзеная квадратамі светла-шэрага, цёмна-шэрага і чорнага граніту, ствараюць адчуванне суровасці і сціпласці. Нацыянальную самабытнасць развіцця культуры рэспублікі адлюстроўвае тэма афармлення станцыі „Інстытут культуры".

**Тэхнічныя навінкі.**

У Мінскім метро вагоны сталі менш цяжкімі, крэслы больш камфортныя, вентыляцыя падае струмень чыстага паветра як у час руху, так і на стаянцы. А пабіраюць энергіі вагоны ў 2,5 раза менш дзякуючы новай арыгінальнай устаноўцы — імпульсіўнага рэгулятара хуткасці, які ўключаецца ў момант тармажэння. Паязды ідуць па новым тыпе рэек, якія змяншаюць непажаданыя шум і вібрацыю.

Метро — гэта пабудова, якая, пачаўшыся аднойчы, не канчаецца. У сталіцы пачалася ўжо пракладка другой лініі. Яна звяжа цэнтр з галоўнымі прадпрыемствамі і зонамі адпачынку гараджан. Дзяржава свядома ідзе на збудаванне чарговай лініі метро, хоць каштуе гэта нямала, а звернуцца грошы аж праз трыццаць год эксплуатацыі

(Працяг на стар. 11)





Хор з Фінляндыі.

(Працяг са стар. 1)

## ДНІ ЦАРКОЎНАЙ МУЗЫКІ

ўсюды выступаў з рэпертуарам, асновай якога з'яўляецца царкоўная музыка.

19 мая, у нядзелю, Гайнаўскі дом культуры наладзіў урачысты канцэрт лаўрэатаў. Вось наш фотарэпартаж з гэтага канцэрта.

Зала запоўнілася да апошняга крэсла, хаця за ўступ на гэты канцэрт давялося плаціць даволі дорага. Людзі стаялі і слухалі, слухалі ды перажывалі, бо слухаць, сапраўды, было што.

Хор з Познані назваў сябе Капэлай старой усходняй музыкі. Ад мінулага года працуе ён пад кіраўніцтвам Лявона Забароўскага. Гэта толькі сведчыць аб мастацкіх і духоўных вартасцях музыкі і песень, створаных у традыцыі праваслаўя, калі пацікавіліся імі на далёкіх заходніх ускраінах нашай краіны. Журы Дзён царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы, якое працавала пад кіраўніцтвам праф. Ра-

### ВАЕННЫЯ СЦЕЖКІ

## ВЫЛАЗКА НА ЧЫГУНКУ

Яны раслі па-суседску з чыгуначнай дарогай, якая спалучала Беласток з Ваўкавыскам. Ад маленства прывыклі да паравозных гудкоў і лёскату калёс. Толькі ў даваенны час ніхто беларускіх сялян не дапускаў да працы на чыгунцы. Туды трапляла выключна польская рабочая арыстакратыя. Хто быў чыгуначнікам, а калі яшчэ і машыністам, той быў ужо вялікім панам. Толькі пры савецкай уладзе Косціку Карповічу ўдалося ўладкавацца на працу на станцыі Валілы. Астаўся ён там ужо і пры гітлераўскай акупацыі.

— Хлопцы, каб вы ведалі, якое дабро Гітлер пхае на фронт! — апавядаў ён сваім таварышам у час іх сяброўскіх сустрэч, якія неяк непрыкметна пераўтвараліся ў падпольныя сходы антыфашыстаў. — Танкі, гарматы, кансервы, ды нават французскі каньяк!

Ніхто з іх ані разу ў жыцці нават не панюхаў гэтага французскага каньяку, але ў кожнага з іх аж слінка пацякла ад успаміну аб гэтым напітку, даступным адно толькі вялікім панам.

— А можа, каб перапыніць адзін гэтакі эшалон? — нехта з іх выказаў уголас думку, якая нясмела ды трывожна прабівалася на паверхню ўсіх іх пажаданняў.

— Адкуль, аднак, даведацца, што ў гэтым эшалоне якраз будзе французскі каньяк? — скептычна запытаў Шурка Ігнацюк.

— Дурань ты і годзе! — адрэзаў яму Сцяпан Кандрусік, вядомы болей пад клічкай Капітанчык. — Нам трэба народ узнімаць на барацьбу! — ён павёў вачыма па тварах сваіх сяброў, як бы рашыў прачытаць у іх уражанне, выкліканае гэтым заяўленнем. Сябры не вельмі зразумелі яго імкненні, адзін толькі Косцік Карповіч пацвярджальна паківаў галавою, дык Капітанчык прадаўжаў:

— Маем вясну сорак другога. То ж вы самі чулі, што Гітлер зноў „скараціў" свой фронт, што нашы пагналі яго з-пад Масквы...

Гэта яны ўжо чулі і ведалі, ды самі, — услед за Савецкім інфармацыйным бюро, — паведамлялі іншым сваім землякам аб гэтай вялікай перамозе пад Масквою, падсоўваючы ім зня-

муальда Твардоўскага, прысвоіла познанскай капэле другое месца ў асобнай катэгорыі розных калектываў, розных — значыць не прыхадскіх. Першае месца заваяваў хор з Варшавы.

Затое ў катэгорыі гарадскіх царкоўных хораў першае месца прыпала калектыву з Гайнаўскага Святатроіцкага сабора. Гэты хор ад самага пачатку працуе пад кіраўніцтвам святара Міхаіла Негярэвіча, які таксама з'яўляецца заслужаным арганізатарам Дзён царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы.

Другое месца ў гэтай жа катэгорыі журы прызнала маладзёжнаму хору з Беластока. Хор гэты заснаваў і безупынку ім кіруе Васіль Дубец.

Вясковыя царкоўныя хоры прадстаўлялі сяляне з Пасынак, якіх бачым на гэтым здымку, а таксама з Чыжоў, Тыневічаў Вялікіх і Падбелля. Хор з Пасынак працуе пад кіраўніцтвам таленавітага селяніна з вёскі Сакі — Андрэя Шаховіча (на здымку — ён у цэнтры з нотнай папкай).

Асабліва сардэчна ўдзельнікі Гайнаўскіх дзён царкоўнай музыкі віталі на сцэне і за сцэнай хор з Фінляндыі, з горада Каўволя. Дзяўчаты выступалі ў сваіх народных уборах. Гэтым хорам кіруе малады святар Каўко Іваноў.

У Гайнаўцы выступалі таксама многія іншыя калектывы. Варта тут сказаць пра хор Паланіна з Агульнаадукацыйнага ліцэя ў Легніцы, дзе навучаецца ўкраінская мова. Гэты вялікі (амаль 60 асоб) вучнёўскі калектыў ужо чацверты раз наведвае Гайнаўку. Кіруе ім інвалід, невідушчы прафесар гэтага ліцэя Міхаіл Дуда. Патрапіў ён захвоціць да супольнага спявання ўжо не адно пакаленне легніцкіх ліцэістаў. Хор, вядома, выконвае не толькі царкоўную музыку.

**В. Рудчык**
Фота аўтара




Маладзёжны хор з Беластока.




Хор Святатроіцкага сабора ў Гайнаўцы.



Вясковы царкоўны хор з Пасынак.

чэўку свае лістоўкі, перапісаныя на пішучай машынцы. Да гэтага таксама вымушаны былі прызнацца і самі немцы ў сваіх газетах, якія яны выдавалі на рускай, беларускай і польскай мовах.

— Пара б і нам адгукнуцца! — заявіў Капітанчык. — Пара паказаць нашым людзям, што гітлераўскага звера можна і тут балюча абскубаць!

Думка спадабалася. Праўда, яна выклікала ў сэрцы трывогу. Ніхто не ведаў, як усё гэта зрабіць. Нехта загаварыў, каб з толу зрабіць міну і закапаць яе пад рэйку. Аказалася, аднак, што ніхто з іх ніколі не трымаў у руках сапраўднай міны і ніхто не ведаў, як гэтае жоўтае небяспечнае толавае цеста пераўтварыць ва ўзрыўчатку, каб задзейнічала яна якраз пад калёсамі паравоза або вагонаў. Усе яны былі яшчэ маладымі людзьмі і кожны з іх, зразумела, баяўся за сваё жыццё. Дык загаварылі, зашумелі, кожны на свой лад, кожны хацеў штосьці разумнае параіць. Канчаткова перамагла думка Косці-чыгуначніка, каб звычайна раскруціць дзве-тры рэйкі, і тады эшалон сам стрымгалоў паляціць у адхон. Ён таксама паабяцаў даставіць неабходныя ключы.

— Іх трымаюць у старажоўцы за Валілямі, — інфармаваў ён сваіх сяброў. Яны ведалі гэтую старажоўку. І верылі, што Косціку ўдасца.

— Можа, табе са дзве пляшкі самагонкі падсунуць, каб спаіць тамашніх дарожнікаў? — запрапанаваў сябар з Грыбаўцаў. Карповіч яму падзякаваў і пачалі гутарыць аб тым, дзе найлепш было б ім падабраць месца для гэтай вылазкі. Рашылі, што сустрэнуцца між Страшавам і Зубкамі.

Ноч стаяла цёмная, імглістая, сырая. Зоркі схаваліся за цяжкімі хмарамі, якія нерухома віселі над самымі верхавінамі соснаў. У лесе і на ўтаптаных сцяжынках палявых дарог вылдзяляліся ў цемнаце мігатлівыя лысіны снегу і здрадлівыя лужыны вады.

Найгорш было чакаць. Першы прыйшоў Косцік Карповіч, неўзабаве далучыўся да яго Сцяпан Кандрусік, значыць, Капітанчык. Кастусь-чыгуначнік першы заўважыў сябра і схаваўся за пень тоўстай сасны. Капітанчык прайшоў побач, спыніўся, паглядзеў у неба і няўпэўнена пачаў азірацца вакол сябе, як бы шукаў адпаведных прыкмет гэтай своеасаблівай сасны, якая расла ў ста метрах ад чыгункі, дзе яны вызначылі сабе месца сустрэчы. Толькі ноччу, калі так цёмна, што за пяць крокаў нічога не відаць,

(Працяг на стар. 8)

(Працяг са стар. 5)

## ЗАГІНЕ МІЛЬЁН

гэтым бедным людзям? — адазвалася мая Палашка.

— Дапамагчы, вядома, маглі б, гэта факт! — адказаў я. — Толькі як?

— А хаця б так, каб кожны, хто жыве ў вёсцы, адсыпаў са сваіх запасаў, скажам нейкіх 50 кг збожжа, а кожны, хто не займаецца гаспадаркай, ахвяраваў 500-1000 зл., каб пакрыць кошт транспарту гэтага збожжа з Польшчы ў Эфіёпію.

— Добра, але хто зоймецца арганізацыяй гэтага аграмаднага мерапрыемства? Ты сабе ўяўляеш, колькі спатрэбіцца працы?

— А жыццё чалавека не вартае гэтага захаду? — адрэзала мне Палашка.

— Ну, добра, — гавару я жонцы, — я гатоў хаця б і зараз, хаця сёння і святая нядзеля, пайсці ў свіран і адсыпаць нават цэлы цэнтнер жыта ў карысць гэтых эфіёпцаў! Ды не таму, што яны, быццам бы, праваслаўныя, а таму, што яны людзі, галодныя людзі! Скажы мне толькі, дзе падзецца з гэтым маім ахвяраваннем?

— Хай ваша салэцкая рада, у якую і цябе выбралі, — адказала жонка, — хай яна аб гэтым падумае! Хай зоймецца справай Патрыятычны рух нацыянальнага адраджэння, хай новыя прафсаюзы ўключацца! — быццам з рукава сыпала Палашка, аж ёй дух займала, а калі яна аддыхалася ад усхвалявання, дык яшчэ дакінула:

— Нябось, ведаюць у нас, як размеркаваць усе тыя дары, якія слалі і шлюць яшчэ ў нашу краіну!

Я згаджаўся з жонкай і ў думках прызнаваў ёй рацыю. Але штосьці ўва мне бунтавалася. Гэтакага роду дапамогай мы нічога не даб'емся. Тут патрэбнае нешта іншае На ўзбраенне свет у мінулым годзе выдаў звыш **800 мільярдаў** долараў. Адна толькі Рэйганаўская Амерыка ў гэтым годзе свае ваенныя расходы ацэньвае на **200 мільярдаў** долараў. Божа мой! Маленькай долі гэтага хапіла б, каб пазбыцца назаўсёды голаду на нашай Зямлі.

Калі мы так талкавалі з жонкай аб гэтых бедных эфіёпцах, сярод якіх у гэтым годзе памрэ яшчэ мільён чалавек, у хату да нас завітала Палашчына сяброўка і мая кума — Марфа.

— А чаму ж ты, Полюшка, сёння ў царкве не была? — спытала яна. Мая Палашка пачала штосьці балбатаць пра нейкія колькі ў баку.

— Дык шкадуй, даражэнькая! — заявіла кума. — Наш новы бацюшка такую прыгожую пропаведзь гаварыў, што я і паплакала! А яшчэ ён казаў, каб, хто хоча, дык за алівай і за сырам прыходзілі. Вельмі танна будуць прадаваць. Алівы — па 10 літраў на сям'ю, а сыру — па 2 кілаграмы... А грошы з гэтага пойдуць на пабудову цэркваў...

Яна яшчэ штосьці гаварыла, але я вымушаны быў пайсці на кухню, каб напіцца чаю, бо чамусьці сённяшні святочны абед пастаянна трымаўся майго горла.

**Максім Нурэцкі**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

**Дарагі Астроне!**

Звяртаюся да цябе як да Астрона-мужчыны, але мо павінен сказаць: дарагая Астрон? Не, не! Не таму, што хачу быць дасціпным і „раскусіць" твой пол. Барані Божа — мог бы зубы паламаць! А проста таму, што апошняй ноччу ты мне прысніўся, мо лепш сказаць з'явіўся, у выглядзе прыгожай, ды на дадатак з сексам, жанчыны. А вось і сам сон.

Прыходжу я ў рэдакцыю „Нівы" з нейкімі намаляванымі анекдотамі. Літары гэтых анекдотаў — проста рознаколерныя кветачкі. Там былі зайчыкі, пчолкі, мушкі... Пад зайчыкам напісана (было): „Конь кааператыву сельскагаспадарчых гурткоў".

Я проста не ведаў, што гэты анекдот з зайчыкам можа значыць у кантэксце гумару, і зайшоў іменна туды, дзе ўсё ведаюць, каб растлумачылі. І тут вось накіравалі мяне да Астрона, якім аказалася жанчына,



мне знаёмая, але толькі знаёмая, больш нічога. Тым часам Вы, дарагая Астрон, замест растлумачыць мне сэнс намаляваных кветкамі анекдотаў, пачалі прасіць, каб я памог Вам уладзіць аліменты.

Я ў сваёй нераздумнасці, як заўсёды, крыкнуў: „Аліменты я буду плаціць!" Пасля злякаўся і прачнуўся, увесь мокры.

Гэта было пару тыдняў таму назад, а я і па сённяшні дзень не чую голасу жонкі, якая паверыла, бо чула, у мой крык.

У сувязі з тым насоўваецца ў маю бедную галаву мноства пытанняў, але я задам толькі адно: Астроне, сны ты адгадваць умееш, а адгадай, калі ласка, што будзе, калі кіне мяне жонка праз твае аліменты?

**Твой Вася**

Ну, ты ж мяне, браце Васька, і напужаў. Праўда, чуў я недзе, што на Захадзе цяпер сталася вельмі моднай перамена полу. З роскашы людзі бесяцца, але каб так, у белы дзень мяне, старэчу, абражаць?! Ты, брат, на сон не спасылайся, а сваю варожую акцыю адразу выяві. Мо мяне з пасады Астрона хочаш скінуць, у бабу пераўтварыўшы? Тады скажы адразу. Сораму ты, Вася, не маеш...

Але няхай ужо табе будзе. Мо і праўда, што табе такая бязглуздзіца прыснілася, што Астрон гэта баба і ты будзеш ёй плаціць аліменты. Але навошта зноў было так крычаць пры жонцы?!

Э-гэ-гэ, Васька, штось у цябе з гэтымі справамі не ў парадку калі, крыкнуўшы, так злякаўся, што прачнуўся, увесь мокры. Глядзі, мо дзе з аліментамі залягаеш, ды жонка аб гэтым нічога не ведае. Твае паводзіны гавораць за гэта.

З усяго сказанага вывад: калі кіне цябе жонка, дык праз твае, а не Астронавы аліменты. Астрон, хоць і старэча ўжо, але свае аліменты плаціць ганарова: дакладна і ў тэрміне. Гэтаму навучылі яго яшчэ ў маладосці.

**Астрон**

## ТАЯМНІЦЫ НАВОКАЛ НАС

### У ДОТЫКУ — ЯК РУКА МАЦІ

У студзені гэтага года, не зважаючы на вострыя маразы, у Беласток прыехаў п. Раман Касцючук з Клейнікаў, каб пагутарыць пра „Таямніцы". У нас адбылася надзвычай цікавая размова, аб якой я напішу яшчэ шырэй, Сёння ж хачу прыгадаць толькі адзін сказ майго шаноўнага размоўцы:

— Я — сталы чытач „Нівы", — кажа Р. Касцючук, — і кожны раз стараюся знайсці тую раслінку, пра якую вы пішаце ў „Таямніцах", але не заўсёды ведаю, дзе яе шукаць.

Паабяцаў я, што пастараюся падказваць, бо можа болей чытачоў захоча пабачыць, як выглядае ў рэчаіснасці раслінка, якую намаляваў Багуслаў Альшэўскі ў „Ніве".

Героем сённяшняй нашай сустрэчы будзе падбел звычайны (лацінская назва — Tussilago farfara, польская — podbiał pospolity, руская — мать-и-мачеха). Каб яго знайсці, не трэба ісці на асабліва далёкую экскурсію. Падбел любіць расці на адхонах сярод палявых равоў і дарог, на ўскраінах кустоў і надзвычай падабаюцца яму руіны і пустэчы пасля разабраных гаспадарчых будынкаў. Знайсці падбел няцяжка, асабліва калі хто ходзіць адной і той самай дарогай і патрапіць назіраць.

Ранняй вясною, калі толькі зазелянее трава, паяўляюцца кусцікі залаціста-жоўтых кветачак. Не заўважыць іх можа толькі чалавек-аўтамат, якога цікавяць адны грошы ды яда. Там, дзе прабіліся кветкі, цяпер расце лісце падбелу. Яго няцяжка пазнаць. Выгляд лісця вельмі дакладна і адначасова вобразна прадстаўлены ў назве расліны. Падбел — значыць: знізу белы. Якраз лісць падбелу з ніжняга боку белы, пушысты, мяккі, а ў дотыку цёплы і лагодны, як дотык маці; зверху ён зялёны і халодны, як дотык мачахі. Ад гэтага і ўзялася руская назва расліны — мать-и-мачеха.

Навуковая назва віду — tussilago паходзіць ад лацінскіх слоў tussis — кашаль і agere — выводзіць. У свабодным тлумачэнні абазначае, што гэтая расліна „выводзіць кашаль". І назва невыпадковая. Лячэбныя ўласцівасці падбелу вядомы са старажытных часоў. Ужываўся ён ад кашлю і ўдушлівасці, якія выклікала запаленне дыхальных шляхоў.

У народнай медыцыне падбел вядомы як лякарства на „залатуху і вадзянку", на абцёртыя месцы скуры і мазалі, а нават... ад болю зубоў. Памятаю, як бабулька Усцінка з Навасадаў дробненька пакрышаным свежым лісцем падбелу вылечыла мне акалечаную новымі ботамі нагу.

Сучасная медыцына выкарыстоўвае кветкі і лісце падбелу. Кветкі збіраюць ранняй вясною падчас поўнай іх квецені, без сцяблінак (сабраныя са сцяблінкамі, не высыхаюць, а адцвітаюць і даюць насенне). Лісці збіраюць у чэрвені, пакуль на іх не пакажуцца цёмныя плямы.

У сучаснай лячэбнай літаратуры рэкамендуюць, між іншым, лякарствы, якія можна нарыхтаваць хатнім спосабам:

1. Лякарства ад кашлю (адхарквальны сродак): узяць 4 часткі лісця падбелу, 3 часткі лісця трыпутніка ланцэталістнага (лацінская назва — Plantago lanceolata, польская — babka lancetowata) і 3 часткі карэння лакрыцы (лацінская назва — Glycyrrhiza, польская — modligroszek, руская — солодка), усё гэта змяшаць, а затым сталовую лыжку сумесі заліць дзвюма шклянкамі кіпетню, накрыць на 20 мінут, адцадзіць і піць па чвэрці шклянкі праз кожныя 3 гадзіны.

2. Пры астме, бранхіце і нервозах рэкамендуюць наступнае лякарства: назбіраць свежага лісця падбелу і пакласці яго ў літровым слоіку пластамі, перасыпаючы яго цукрам, слоік зачыніць і закапаць у зямлю на даўжэйшы час, пакуль не паўстане ў ім аднародная маса, затым дадаць да яе паўкілаграма мёду, перамяшаць і прымаць па сталовай лыжцы 3 разы ў дзень.

3. Таксама гэты вышэй апісаны бальзам, як і свежы сок з лісця падбелу рэкамендуюць на кампрэсы на абцёртую і абабітую скуру, сінякі і скулы. На кампрэсы на тлустую скуру і для абмыцця з себарэю (лоятоку), пры раздражэнні скуры, пры пачырваненні і апёках сонечнымі праменнямі можна ўжыць напарання з кветак падбелу (30 грам кветак на 1 літр вады).

4. Моцны вывар з зелля (лісця і кветак) падбелу і лісця крапівы (2 сталовыя лыжкі сумесі на 1 шклянку вады) ужываюць для мыцця галавы. Змяншаецца выпаданне валасоў (засцерагае ад аблысення), супрацьдзейнічае перхаці (лупежу).

Значыць, варта трымаць падбел у хатняй аптэчцы.

**д-р Б. Паскробка**

(Праняг са стар. 7)

## ВЫЛАЗКА НА ЧЫГУНКУ

усе сосны выдаюцца своеасаблівымі.

— Хэндэ хох! — раптам хтосьці адазваўся з гэтай цемры, і Капітанчык пачуў, што нейкая жалязяка, як бы канец аўтаматнага дула, уперлася яму ў плечы. Паслухмяна падняў рукі.

— Але з цябе і ваяка! — засмяяўся ўголас Кастусь. — Глядзі, чым я цябе хацеў расстраляць! — і падсунуў сябру пад нос вялізны рэйкавы ключ. Капітанчык груба вылаяўся, а нават з кулакамі прыпаў да сябра і, цягаючы яго за каўнер, папярэдзіў:

— Ты з ключом, а ў мяне ў кішэні сапраўдны наган, дык ты будучыню глядзі, бо я магу пачаставаць цябе волавам!

Спрэчку іх перапыніў Шурка Ігнацюк.

— Але ж вы крычыцё! — сказаў затрывожаны. — За паўвярсты вас чуваць! Ці нельга цішэй?

Неўзабаве далучыўся да іх яшчэ адзін падпольшчык-дыверсант, юнак з Грыбаўскіх хутароў. Рашылі, што двух з іх будзе працаваць ля рэек, а двух пойдуць на варту ў два розныя напрэмкі чыгункі. Калі б заўважылі штось небяспечнае, дык адзін доўгі званок аб рэйку і два кароткія будуць сігналам аб трывозе. Ля рэек асталіся Капітанчык і, вядома, Касцік-чыгуначнік. Пасля зімы гайкі заіржавелі, не хацелі паддавацца. Нават двух сялянскіх асілкаў не змаглі іх адкрунуць. Капітанчык, знерваваўшыся, схапіў вялікі камень і ўдарыў па ключу. Звонкае рэха панеслася па чыгуначным палатне.

— Ці ты здурэў?! — засычаў Кастусь.

— Ну, каб з месца збіць, каб рушыць, — апраўдваўся Сцяпан.

— Хутчэй нас тут з ног пазбіваюць, калі ты будзеш біць так на трывогу! — адказаў яму сябар. — Давай паспрабуем іншую гайку!

Яны патрацілі адчуванне часу. Здалося ім, што ўсё гэта здзейснілася на працягу адной невялікай хвіліны, а не зацягнулася больш за гадзіну. Адзін раз прагнаў іх з чыгуначнага палатна нейкі цягнік. Імчаўся з усходу на захад. Сяброў папярэдзіў аб гэтай небяспецы Шурка Кандрусік сваім трывожным сігналам. Цягнік імчаўся з адкрытымі фарамі, з яркімі вокнамі. Назіралі за ім з трывогай, бо не ведалі, што рабіць: уцякаць стрымгалоў ад чыгункі, ці чакаць, што будзе. Некаторыя гайкі паспелі ўжо адкруціць. Спадзяваліся, што цягнік можа выскачыць з рэек. Што тады будзе. Баяліся, асабліва Капітанчык ляскатаў зубамі, хаця ніколі да гэтага не прызнаўся, што не хапіла яму адвагі, каб забіць невядомага чалавека. Там, на фронце нашых яны не шкадуюць, — падбадзёрваў сябе. Ды каб толькі на фронце! Колькі яго асабістых сяброў грызе ўжо пясок, бо іх гітлераўцы паспелі пусціць у расход, пасля зверскіх здзекаў...

Пасажырскі праімчаўся шчасліва. Сябры некалькі хвілін яшчэ пастаялі на ўскраіне лесу і зноў узабраліся на чыгуначнае палатно, якое ў гэтым месцы ўкладвалася ў вялікі паварот. Зноў заскрыгатаў ключ, забразгалі ломы. Працавалі заўзята на гэты раз усе разам, чатырох. Без вартавога. Хацелі як мага хутчэй закончыць сваю вылазку. І ўдалося. Дзве рэйкі адсунулі на некалькі сантыметраў на бок, але так, што з першага позірку, асабліва ноччу, не можна было зразумець, што хтосьці тут што-колечы зрабіў. Раскручвалі рэйкі толькі з аднаго боку.

Разбегліся па сваіх дамах і ў напружанні чакалі нейкай весткі. Аб гэтым ужо наступным разам.

**Віктар Рудчык**

# ЗОРКА

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ДЭКЛАМАТАРСКІ КОНКУРС ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ

25 мая ў будынку гайнаўскай падставовай школы № 2 адбыўся чарговы цэнтральны дэкламатарскі конкурс для школьнікаў. Лозунгам сёлетняга конкурса была „Сатыра і рэчаіснасць у беларускай літаратуры".

Прыехалі на конкурс дзеці з 19 школ: бельскай № 3, гайнаўскіх № 2 і № 3, Орлі, Пашкоўшчыны, Маліннік, Крывой, Пасынак, Ляшукоў, Нараўкі, Семяноўкі, Арэшкава, Дубін, Трасцянкі, Янова, Дубічаў Царкоўных, Дашоў, Дубяжына і Вулькі Нурэцкай. Удзельнічала ў конкурсе 43 вучні.

Найбольш папулярнымі творамі на конкурсе аказаліся байкі Кандрата Крапівы („Дзед і баба", „Сава, Асёл ды Сонца", „Ганарысты парсюк", „Дыпламаваны баран", „Еш, дурань, бо з макам" і іншыя), сатырычныя фельетоны Дзядзькі Леваня, вершы Каруся Каганца, некалькі разоў паўтаралася „Пазыка" Ядвігіна Ш., „Савось-распуснік"



*Аня Главацкая, вучаніца другога класа з Орлі, і Валік Корч, вучань чацвертага класа з Дубічаў Царкоўных.*

*Фота Я. Чэрнякевіч.*

## Роднае слова са сцэны

Я. Коласа, „Другагоднік" Ул. Корбана, „Ягорка-прытворка" А. Дзеружынскага і іншыя. З нашых беларускіх пісьменнікаў у Польшчы, апрача названага ўжо Дзядзькі Леваня, вельмі часта дэкламаваліся кароткія апавяданні Міхася Шаховіча („Чароўная знаходка", „Грошы", „Дурагонка", „Стаж"), вершы Віктара Шведа, „Спосабы на зладзеяў" С. Яновіча, „Ідуць днідзянёчкі" Сымона Раманьчука і іншыя.

Усе ўдзельнікі былі вельмі добра падрыхтаваны на конкурс, адрозніваліся стараннай вымовай і дыкцыяй, часта персанажы твораў гаварылі рознымі галасамі, бо выступаючыя стараліся прадставіць творы ў ролях.

Наогул усім было цікава і весела слухаць жартоўныя і сатырычныя тэксты. Шкада толькі, што некаторыя творы паўтараліся шмат разоў. Як аказалася, прапанаваная тэма „Сатыра і рэчаіснасць у беларускай літаратуры" аказалася занадта вузкай як на школьны, дзіцячы конкурс.

Удзельнікі мелі клопаты з рэпертуарам, карысталіся тым, што ўдалося раздабыць.

Камісія пад старшынствам настаўніка беларускай мовы з гайнаўскага беларускага ліцэя Васіля Сакоўскага ацаніла выступленні дзяцей вельмі высока і прызнала наступныя месцы.

Тры раўназначныя першыя месцы — Вераніцы Беглюк з Нараўкі, Эве Маркевіч з бельскай школы № 3 і Тамары Назарук з Янова.

Тры другія месцы — Яанне Куне з Орлі, Элі Томчук з бельскай „тройкі" і Янку Леанюку з Дубічаў Царкоўных.

Чатыры трэція месцы — Басі Гіншт з Дубін, Крысі Яцко з гайнаўскай школы № 3, Ірыне Евюк з Дашоў і Марыёлі Томчук з Дубяжына.

Спецыяльныя ўзнагароды

(Працяг на стар. 10)

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

### Дзяжурны

Вожык сёо прабег
Дарожак.
Ён дзяжурны ў лесе
Сёння.
Правярае куст
Ажыны.
Зазірне
Ў чарнічнік сонны.
Не шкадуе Вожык
Ножак:
Бо ў лясок
Прыйсці павінны
Іра з Аняй,
Вася з Косцем
У чарніцы, у маліны.
Просіць вожык:
— Ты, маліннік,
Не хавай сваіх галінак.
Ад хлапцоў і ад дзяўчынак.
Вы, ажынніка калючкі,
Не параньце
Дзецям ручкі!
Не хвашчыце ім каленкі,
Не дзярыце ім сукенкі!
Дайце ягад,
Колькі ўлезе!
Хай ім будзе
Добра ў лесе!
...Сакаўныя, налі́ўныя,
Ягады — у кожны кошык!
Стомлены, адпачывае
За кустом
Дзяжурны вожык.

### ЯК ЁН ЗАВЕЦЦА?

Як ён завецца,
Гэты хлапчук?
Што мыць не хоча
Ні шыі, ні рук?

Цукеркі і цацкі
Сабе ён грабе,
Нікога не любіць,
А толькі сябе.

Сяброў ён не мае.
Кніжкі — ірве.
А што не па ім —
Як бычок, зараве.

Затупае ножкамі,
Вырвецца з рук.
Ці ведаеш, як той
Завецца хлапчук?

Вольга Іпатава

Аляксандр Капусцін



## Музыка белых пялёсткаў

Асцярожны Аркадзікаў званок спрасонку здаўся Косціку нечаканым і трывожным. Хлапчук не адразу сцяміў што да чаго. Маці ўсхапілася з ложка і, ідучы адчыняць дзверы, паблажліва забурчэла:

— І не лянуюцца ж у такую рань! Дык жа каб хоць рыбу прынеслі! Можа, не пойдзеш, Косцік, лепш паспіш?

А ён ужо нацягваў штаны.

— Сёння наловім, от пабачыш, мама, наловім, — Косцік ледзь варушыў непаслухмянымі губамі — не прачнуўся яшчэ як след.

На вуліцу ён выскачыў ускудлачаны. Намагаючыся адагнаць санлівасць, борзда ўскінуў на плячо вуду і, ідучы побач з Аркадзікам, махаў кайстрай, у якую маці паклала яду.

Каля затокі хлапчукі пакідалі ў лазовы куст свае кайстры. Потым адна за другою прасвісталі ў паветры лёскі, ціхенька боўтнуліся ў ваду грузілы. Па цёмнай люстраной роўнядзі пабеглі лёгкія кругі. Яны накочваліся на шырокае лісце, што ў велічным спакоі ляжала на вадзе. Аркадзік ціха ўсклікнуў:

— Глядзі, якія прыгожыя гарлачыкі!

Памалу прысеў, уторкнуў вудзільна ў зямлю і павольна, не адрываючы вачэй ад гарлачыкаў, устаў. Ён раз-пораз кідаў позіркі і ўжо крыху гучней, але ўсё роўна неяк урачыста-прыцішана расказваў Косціку:

— Яны на ноч так сціскаюцца. Калі я малы быў, мама казку мне пра іх чытала. Ад цемры хаваюцца, не любяць цемры. А ўдзень распускаюцца, як... Як белыя зоркі, на вадзе ўзыходзяць... Вунь глядзі — здаецца, раскрываюцца ўжо. Бачыш?

— Ага, — выдыхнуў Косцік. Хаця, па праўдзе кажучы, ён нічога яшчэ не бачыў.

— Чуеш, рыбай пахне? Хлопцы казалі: гэта ад плотак і акунёў такі пах. Яе тут поўна, рыбы!

Косцік слухаў Аркадзіка і думаў: „Усё ён ведае!"

Аддаўшыся спакойнай рыбалцы, хлопцы між тым час ад часу адрывалі вочы ад сваіх вудаў. Назіралі за маладымі стрыжамі, якія з радасным піскам насіліся туды-сюды — трэніравалі крылы; глядзелі на гарлачыкі, на роўна выцягнутую стужку затокі і далей, на аксамітна-зялёны дыван лугу, спярэшчаны белымі, жоўтымі, чырвонымі кветкамі...

З нейкай урачыстасцю Косцік нібы ўбіраў у сябе ўсё, што было перад вачамі: і вочы яго ўсё шукалі чаго-небудзь новага, што было схавана ў чырвоным трубняку і аеры, у гушчары высокага чароту па другі бок затокі, за невялікімі залітымі сонцам пагоркамі, над якімі санліва трымцела марыва.

— Ты што, заснуў? Падсякай! — прыцішаным голасам, быццам

(Працяг на стар. 10)

„Ніва"
16.VI.1985 г.

Са студэнцкага гумару

## БЯЖЫ, ДРУЖА, БЯЖЫ!

Прагучаў стрэл стартавага пісталета.

Бяжым ураган, імчуся па дарожцы стадыёна. Я — лідэр. Раптам чую: хтосьці крычыць ззаду.

Даганяе Сярожка. З трэцяга курса. Цяжка дыхае.

— Кажы, што здарылася? — пытаю.

— Мне за першае месца трэнер абяцаў стыпендыю...

Нічога не зробіш. Трэба выручыць. Прапусціў Сярожу наперад.

Сціпаю хуткасць і бягу сабе. Чую, зноў мяне нехта кліча. Паварочваю галаву. Вася з лячфака!

— Табе што?

— За прызавое месца дэкан абяцаў даць месца ў інтэрнаце. Прапусці...

Дружба ёсць дружба. Акрамя таго, сябру дах патрэбен.

— Абганяй, — гавару.

Бягу далей трушком. Неўзабаве чую, што нехта ззаду тэпае і сапе. Азіраюся і бачу: Пеця — член нашай рэдкалегіі. Між іншым, ён усе мае гумарыстычныя апавяданні заціскае. Ну, думаю, гэтаму ўжо не ўступлю. Аднак Пеця просіць прабачэння за крытыку. Запэўнівае ў чарговым нумары насценгазеты змясціць маё апавяданне.

„Няхай сабе, — мяркую, — якая розніца быць трэцім ці чацвёртым".

— А што табе за трэцяе месца будзе? — цікаўлюся.

— Залік па тапаграфічнай анатоміі.

— Ну, ні пуху ні пер'я!

Прапусціў я таварыша, а сам пайшоў пехатой. Куды ж спяшацца? — Я — на пятым курсе. Стыпендыю атрымліваю. Жыву з бацькамі. У мяне поўны, як кажуць, ажур.

**А. Паўхімовіч**



— Спявае?
— Не, я ад яго прыкурваю.

# НІЎКА

З чаго смяюцца суседзі.




## МОЦНЫЯ ВЕДЫ

Напярэдадні экзамена на права кіравання аўтамабілем адна з курсантак звяртаецца да свайго інструктара:

— Даруйце, але мне яшчэ не ўсё зразумела. Дапусцім, што мой бензабак ужо зусім пусты. Ці не пашкодзіць аўтамабілю, калі я, нягледзячы на гэта, буду працягваць ехаць далей?

## ПАГОРШАЛА

— З гэтай хваробай, — гаворыць доктар пацыенту, — вы пражывяце сто гадоў.

— Хіба мне так пагоршала? — спалохаўся пацыент.

— Як гэта „пагоршала"? — не разумее пытання доктар.

— Бо, калі я быў у вас два гады назад, вы мне сказалі, што з гэтай хваробай я пражыву дзвесце гадоў.

ГУМАР З БАРАДОЮ

## ПАРАІЎ

— Скажы, Сцяпан, чаго гэта Пранук глядзіць на мяне скоса і зубамі скрыгоча?

— Ён на цябе скрыгоча, а ты на яго паляскай.

— Ого, паляскаеш, калі ў роце ніводнага зуба.



Made in Zadrypanka



У яго актыўным быў толькі адпачынак.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Аднаго амерыканскага пісьменніка прыцягнулі да ўдзелу ў вайсковых вучэннях. Пры рэгістрацыі афіцэр пытае ў яго:

— У школе вучыліся?

— У многіх школах, — адказвае пісьменнік. — Вучыўся ў Берклі, Лос-Анжэлесе, акрамя таго закончыў Прынстанскі і Калумбійскі універсітэты. Доктарскую дысертацыю абараняў у...

— Хопіць, — перабіў яго афіцэр і, звяртаючыся да пісара, сказаў: — Запішыце: чытаць і пісаць умее.

*

Адзін шатландскі оптык перадаваў свой вопыт сыну:

— Калі кліент купляе акуляры, кажаш яму, што яны каштуюць 15 шылінгаў і ўважліва пазіраеш, ці зрабіла гэта на яго якое-небудзь уражанне. Калі не зрабіла, гаворыш далей, што столькі каштуе толькі аправа, а за лінзы патрэбна заплаціць яшчэ дзесяць шылінгаў. Пасля гэтага зноў пільна сочыш за кліентам. Калі і гэта не зрабіла на яго ніякага ўражання, дадаеш: зразумела, за штуку...

## МАНАЛОГ ІНСПЕКТАРА РЫБНАГЛЯДУ

Ахоўнік рыбчын я,
Хоць і ахвоч да юшкі,
Ды вудачка мая —
Зусім не для калюшкі.
Як дбайны пастушок,
Я шчупака з размаху
Чапляю на кручок,
Каб — менш калюшцы
страху.

**Райва Райгна**

З „Весніка Задрыпоніі"

## ДЛЯ ВАС, МЕЛАМАНЫ

Сёння ў праграме „Запішыце на вашы магнітафоны" вы зможаце пачуць спеў жаваранка, трэлі салаўя, пачуць іншыя унікальныя запісы.

## АБ'ЯВА

Грошы, якія выявіце ў той ці іншай страве, вы неадкладна павінны вярнуць у касу сталовай.



— Ало, сантэхніка?..



Без слоў.



— Апранайцеся і пойдзем са мною! Маркуючы па рахунку, вы ў яго ўключаны!

# Курёзы

## САКРЭТЫ КАМЕРЦЫІ

Адзін малады хлопец захацеў уладкавацца прадаўшчыком у салідным парыжскім антыкварным магазіне. Дзеля гэтага трэба было вытрымаць адпаведны экзамен. Уласнік магазіна падняў з падлогі трэсачку, паклаў яе на чырвоную аксамітную падушачку і спытаў: „Ці мае яна антыкварную вартасць?" „Безумоўна, — адказаў малады хлопец, — яе можна і прапанаваць пакупніку як зубачыстку Людовіка XIV".

## БУДЗЬЦЕ ЗДАРОВЫ!..

Амерыканскі часопіс „Ю. С. Н'юс энд Уорлд рыпарт" падлічыў: дзесяць мільярдаў долараў выплачваюць штогод лёгкадумныя грамадзяне ЗША розным знахарам і збавіцелям. Чатырнаццаць мільярдаў ідзе на сплату „мікстур", складовымі часткамі якіх з'яўляецца амела, белыя лілії, бамбуковыя парасткі, танны алей і яшчэ нешта-што. Два мільярды долараў амерыканцы ўплачваюць шахраям ад медыцыны за такую панацэю ад артрыта, як насенне люцэрны плюс кароўі памёт.

# Між намі

Ад кампліментаў да аліментаў — адзін крок.